Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 6 - 12 чэрвеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№23 (111)

ВЫБЕРЫЦЕ сабе ПРАФЕСІЮ





2-ая старонка

## Расклад руху пасажырскіх цягнікоў па ст. Маладзечна з 1 чэрвеня 1997 г.

ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ "РГ"

| № | Маршрут след. | Адпр. з пач.ст. | Па ст. Маладзечна прыб. | стаян. | адпр. | Прыб. на канц ст. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 419 | Масква-Калінінград | 9-54 | 23-57 | 4 | 0-01 | 10-12 | па ўказ. |
| 281Я | Унеча-Гродна | 12-00 | 0-50 | 15 | 1-05 | 7-12 | няцот. |
| 683 | Віцебск-Гродна | 18-00 | 0-50 | 15 | 1-05 | 7-12 | цот. |
| 29Б | Масква-Калінінград | 13-59 | 1-11 | 7 | 1-18 | 11-10 | штодз. |
| 287А | Гомель-Рыга | 18-17 | 1-34 | 26 | 2-00 | 13-00 | цот. |
| 150Ц | Калінінград-Масква | 15-20 | 1-36 | 4 | 1-40 | 15-50 | з 3/6 па 22/9 штодз. |
| 212Д | Калінінград-Харкаў | 16-10 | 2-36 | 5 | 2-41 | 23-30 | няцот. |
| 57М | Санкт-Пец.-Варшава | 12-24 | 2-38 | 20 | 2-58 | 7-51ГР. | штодз. |
| 77Д | Масква-Гродна | 16-43 | 3-45 | 7 | 3-52 | 9-30 | штодз. |
| 286Б | Калінінград-Гомель | 17-45 | 4-03 | 5 | 4-08 | 11-04 | цот. |
| 5Б | Масква-Каўнас | 17-17 | 4-34 | 4 | 4-38 | 10-23 | штодз. |
| 525 | Чалябінск-Калінінград | 18-30 | 5-06 | 4 | 5-10 | 15-15 | 21, 29/6, 7, 15, 22, 31/7, 8, 15, 24/8, 1/9. |
| 288А | Рыга-Гомель | 19-00 | 5-31 | 26 | 5-57 | 13-13 | няцот. |
| 87А | Масква-Вільня | 19-05 | 5-56 | 6 | 6-02 | 9-09 | па ўказанні |
| 36А | Беласток-Масква | 0-30Гр. | 6-10 | 13 | 6-23 | 20-14 | 3, 4, 5, 6 днях тыдня |
| 676 | Полацк-Мінск | 1-30 | 6-19 | 25 | 6-45 | 8-32 | штодз. |
| 149Ц | Масква-Калінінград | 19-20 | 6-37 | 3 | 6-40 | 17-27 | з 4/6 па 23/9 штодз. |
| 258Б | Львоў-Рыга | 19-43 | 11-34 | 15 | 11-49 | 22-45 | з 5/6 па 4/9 па 1, 4, 5, 7 |
| 420 | Калінінград-Масква | 1-58 | 12-45 | 5 | 12-50 | 4-03 | па ўказанні |
| 58М | Варшава-Санкт-Пец. | 11-47Гр | 16-42 | 15 | 16-57 | 9-12 | штодз. |
| 526 | Калінінград-Чалябінск | 6-55 | 17-10 | 4 | 17-14 | 6-50 | 15, 24/6, 2, 10, 17, 26/7, 3, 10, 19, 27/8 |
| 675 | Мінск-Полацк | 17-08 | 18-42 | 26 | 19-08 | 0-16 | штодз. |
| 6Б | Каўнас-Масква | 14-44 | 19-56 | 4 | 20-00 | 9-12 | штодз. |
| 30Б | Калінінград-Масква | 10-50 | 20-51 | 6 | 20-57 | 10-00 | штодз. |
| 35А | Масква-Беласток | 10-19 | 21-21 | 5 | 21-26 | 2-50Гр. | 1, 2, 3, 4 днях тыдня |
| 78Д | Гродна-Масква | 15-59 | 21-38 | 7 | 21-45 | 11-03 | штодз. |
| 211Д | Харкаў-Калінінград | 23-58 | 21-46 | 5 | 21-51 | 8-22 | няцот. |
| 285Б | Гомель-Калінінград | 15-15 | 22-06 | 4 | 22-10 | 8-22 | цот. |
| 88А | Вільня-Масква | 19-04 | 22-11 | 3 | 22-14 | 11-30 | па ўказанні |
| 257Б | Рыга-Львоў | 11-15 | 22-11 | 16 | 22-27 | 14-51 | з 3/6 па 2/9 па 2, 3, 5, 6 |
| 282Я | Гродна-Унеча | 16-15 | 22-20 | 4 | 22-24 | 10-53 | няцот. |
| 684 | Гродна-Віцебск | 16-15 | 22-20 | 4 | 22-24 | 5-04 | цот. |

**У раскладзе магчымыя змяненні. Тэлефоны для даведак (01773) 70848, 42423**

*У змешчаным у мінулым нумары "РГ" раскладзе руху прыгарадных цягнікоў, як мы і папярэджвалі, адбыліся невялікія змяненні.*

**Электрацягнікі адпраўленнем з Маладзечна:**

у **8-23** - на прыпынках Баяры і Масюкоўшчына спыняецца;
у **8-47** - прыбывае ў Мінск у 10-28;
у **11-42** і прыбыццём у Мінск у 13-22 - курсіруе толькі па суботах;
у **17-03** - не мае прып. у Сел., Крын., Рам., Вяз., Анус., Хмел., М. М.

**Электрацягнікі адпраўленнем з Мінска:**

у **9-42** - курсіруе толькі па нядзелях;
у **15-00** - курсіруе толькі па пятніцах і суботах.





## Міс Маладзечна

*МАЛАДЗЕЧНА. Тут чакаюць гарадскі тур нацыянальнага конкурсу «Міс Беларусь», які мусіць прайсці ўлетку.*

Як сказана ў яго ўмовах, прадугледжваецца прыз за лепшы нацыянальны касцюм, а сам конкурс праводзіцца, у прыватнасці, з мэтай папулярызацыі беларускай мовы. Вось толькі наўрад ці хто з канкурсантак будзе гаварыць на «матчынай мове» дый пры чым тут «міс». Праўда, і склад журы больш нагадвае камісію па справах непаўналетніх. Так што ёсць падставы меркаваць аб дастаткова спецыфічных умовах правядзення «шоў».

Мінскі абласны этап пройдзе ў пачатку восені ў Барысаве.

*Язэп СЕМЯНОВІЧ.*

**Карэспандэнты "Маладзёжнай "РГ"!**
Мы чакаем вас у рэдакцыі ў панядзелак, 9.06, а 16-й гадзіне.

### У вышуку

## Злачынцы, спірт і аўтамабілі

*АСТРАВЕЦ. На другі дзень пасля здарэння ў лясным масіве на станцыі Гудагай (пра якое "РГ" пісала ў мінулым нумары) тамтэйшыя жыхары былі сведкамі, як верталёт аблятаў усю тэрыторыю раёна ў пошуках крадзеных аўтамабіляў са спіртам.*

А чуткі ходзяць розныя: адны, спасылаючыся на "інфармаваныя крыніцы", сцвярджаюць, што злачынцы, звязаўшы ахоўнікаў, выкралі гружаныя спіртам аўтамабілі і пераправілі груз у Літву; іншыя гэтак жа пераканана даказваюць, што груз асеў на месцы.

Падліла масла ў агонь, але мала прасвятліла сітуацыю газета "Звязда", якая ў нумары за 3 чэрвеня са спасылкай на прэс-групу Гродзенскага ўпраўлення ўнутраных спраў дала інфармацыю аб знікненні 200 тон спірту, які належаў адной з камерцыйных фірмаў, і 8 аўтамабіляў.

Карэспандэнт "РГ" спрабаваў атрымаць больш поўную і дакладную інфармацыю пра гэтую справу ў начальніка Астравецкага РАУС Яраслава Халецкага. Той, спаслаўшыся на тайну следства, адмовіў, але паабяцаў зрабіць гэта з задавальненнем пасля завяршэння справы.

*Аддзел інфармацыі.*

### Навіны

## У школах лічаць цяпло

*МАЛАДЗЕЧНА. У шасці гарадскіх школах у бліжэйшы час плануецца ўстанавіць прыборы для ўліку цяпла.*

Загадчык аддзела адукацыі Уладзімір Ляговіч тлумачыць гэтую неабходнасць эканоміяй бюджэтных сродкаў. Практыка сапраўды паказвае, што нават сама ўстаноўка лічыльнікаў акупляе сябе ў кароткі тэрмін. А маладзечанцы, на яго думку, адстаюць у гэтым.

Для набыцця прыбораў выдзелены грошы. У аддзеле адукацыі хацелі б да канца года абсталяваць лічыльнікамі ўсе школы.

*Аддзел інфармацыі.*

## Да крамы праз дзіцячы садок

*ВАЛОЖЫН. Нядаўна пад дахам дашкольнай установы, што знаходзіцца ў мікраарэне аграпрамтэхнікі, "прапісалася" "Пчолка". Крама, якая мае арыентацыю на сацыяльную падтрымку насельніцтва.*

Сукенaчкі, кашулькі, чаравікі прадаюцца тут па сімвалічных цэнах. У садку спадзяюцца, што патэнцыяльнымі наведвальнікамі крамы стануць члены малазабяспечаных і шматдзетных сем'яў.

"Пчолка" папаўняе свае гандлёвыя паліцы дзякуючы дабрачыннасці жыхароў мікраарэна, работнікаў садка. У краму можна прынесці рэчы, якія былі ў карыстанні і маюць добры выгляд. Наладзіўшы рэвізію сваіх шафаў, многія гаспадыні знойдуць, што ахвяраваць "Пчолцы".

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## Дарога за дарогай

*АСТРАВЕЦ. Днямі мясцовае дарожна-будаўнічае ўпраўленне №159 завяршыла капітальны рамонт дарогі Варняны-Рымдзюны-Жодзішкі, дзе праведзена гравійная падсыпка, а ў некаторых месцах, дзе ўзнікла неабходнасць, высечаны кустарнікі і дрэвы.*

І хаця падобны рамонт каштаваў ні многа, ні мала, а 1 мільярд 366 мільёнаў рублёў, тым не менш, думаецца, выдаткаваныя сродкі апраўдаюцца добрым настроем у вадзіцеляў і пасажыраў, што будуць ездзіць па гэтай дарозе.

Дарожнікі не заспакойваюцца, бо неўзабаве распачнуць будаўніцтва аб'язной дарогі вакол вёскі Малі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Турнір становіцца рэгіянальным

*МАЛАДЗЕЧНА. Тры дні тут праходзіў турнір па суднамадэльным спорце сярод школьнікаў рэгіёна на прызы «Рэгіянальнай газеты». Арганізатары прымеркавалі яго да дня абароны дзяцей.*

Вадаём вёскі Цюрлі стаў шчаслівым для пераможцаў у сваіх класах мадэляў Жэні Суслы з Маладзечна і Вадзіма Алексіёнка з Мінска. Другімі прызёрамі сталі Андрэй Сарока з Вілейкі і Аляксандр Шыбут з Мінска, трэцімі - маладзечанцы Аляксандр Міцько і Ілья Васільеў.

*Аддзел інфармацыі.*

### Адным абзацам

З надыходам лета не даводзілася назіраць на валютна-грашовым рынку сур'ёзных змен, таму што галоўны куратар гэтых праблем (як, урэшце, і астатніх) - прэзідэнт краіны - быў надзвычай заняты ў больш знаёмых яму пытаннях уборачнай кампаніі, вываду тэхнікі на палі, нарыхтоўкі кармоў і г. д. Аднак у гэтым годзе зацішша валютнага рынку ўзарванае самім Нацыянальным банкам краіны. З гэтага часу адна асоба можа купіць у дзень у абменным пункце валюты ў эквіваленце да 200 долараў ЗША. Акрамя гэтага, 30% купленай у грамадзян праз абменныя пункты валюты банкі абавязаны прадаваць Нацбанку. Такім чынам, надзея на частковае зняцце напружання на рынку не спраўдзілася - перспектыва легальнай пакупкі валюты для большасці беларускіх грамадзян становіцца безнадзейна далёкай.

На вуліцах Гомеля з'явіліся першыя двухпавярховыя аўтобусы. Прадстаўнікі іх АП №6 пабывалі за мяжой. Павышаную цікавасць аўтобусы выклікаюць у дзяцей і дазваляюць у сваіх вялікіх двух салонах размясціць усіх пасажыраў, што чакаюць на прыпынках.

На заводзе "Форд-Юніон" пад Мінскам поўным ходам ідзе мантаж абсталявання для вытворчасці аўтамабіляў, персанал завода ўжо прайшоў навучанне на прадпрыемствах амерыканскага канцэрна ў Польшчы - усё гэта дазваляе не сумнявацца, што першы аўтамабіль сыдзе з канвеера па графіку - 30 ліпеня. Амерыканцы задаволеныя сваім галоўным партнёрам на Беларусі - СП "Лада-ОМС", які з'яўляецца адным з лепшых дылераў канцэрна ў СНД. Поспехі прадпрыемства былі адзначаны ўручэннем яго генеральнаму дырэктару А. Ваганаву спецыяльнай узнагароды - вышэйшага знака заахвочвання кампаніі "Форд". Калегі называюць яго "ударнікам капіталістычнай працы".

Самым буйным інвестыцыйным праектам у рэгіёне стаў дагавор аб стварэнні ў Маладзечне на базе завода лёгкіх металаканструкцый і фінскай кампаніі сумеснага прадпрыемства па афарбоўцы ацынкаванай рулоннай сталі. Устаўны фонд новага прадпрыемства - 22 млн. долараў, 45% будзе належаць маладзечанскаму прадпрыемству. У перспектыве будзе таксама створана вытворчасць па выпуску сучасных будаўнічых матэрыялаў па італьянскай і фінскай тэхналогіях.

Дзевяць маладзечанцаў атрымліваюць медаль «Ганаровы грамадзянін г. Маладзечна». Сваякі яшчэ сямі памерлых атрымаюць іх таксама. Акрамя ўзнагарод гарвыканкам прадугледзеў дапамогу па 500 тысяч рублёў.

Сельскагаспадарчае прадпрыемства "Зара", што на Мядзельшчыне, па прапанове землякоў Максіма Танка перайменаванае і носіць цяпер імя выдатнага майстра беларускага слова.

У адпаведнасці з пастановай падатковай інспекцыі і вядомым указам прэзідэнта ў Маладзечне падрыхтаваны чарговы спіс фірмаў, якія належаць да ліквідацыі. На гэты раз іх больш за 300.

У Нарачы аднавіў работу цэнтр адпачынку "Чайка". Адметнасцю яго сёлета стала казіно, дзе можна выйграць шмат грошай. А дакладней,- прайграць.

**Рэгіянальная мазаіка**

# Гандаль на рэйках

*АСТРАВЕЦ. На станцыі Гудагай знаходлівыя людзі вынайшлі цікавы і арыгінальны метад зарабляць грошы.*

Карыстаючыся тым, што станцыя з'яўляецца апошняй на беларуска-літоўскай мяжы і тут для праходжання мытнага і пагранічнага кантролю спыняюцца цягнікі дальняга следавання, гэтыя людзі арганізавалі свой невялікі бізнес. "Вынаходнікі" закупляюць гарэлку, піва, піражкі ды іншыя прысмакі і накіроўваюцца да прыбыўшых цягнікоў. Пакуль іх пасажыры праходзяць кантроль, "бізнесмены" прапаноўваюць ім пералічаныя і многія іншыя тавары, якія могуць спатрэбіцца ў далёкай дарозе. Хтосьці пранікае ў вагоны і там рэалізуе свой тавар, а іншыя " частуюць" праезджых і праз вокны.

Падобны бізнес даволі прыбытковы і нават не з-за вялікай "гандлёвай нацэнкі". Тавары рэалізуюцца пасажырам прыкладна па такім жа кошце за рублі, але толькі расійскія. Як зазначыў адзін "бывалы", з дзвюх бутэлек кефіру і дзвюх піва можна атрымаць да 60 тысяч навару.

Прыводзіць сюды людзей бязвыхаднае становішча, у якім яны апынуліся. Многія страцілі работу і вымушаны займацца падобным, каб неякім чынам пракарміць свае сем'і. Але ёсць і сталыя "прафесіяналы", якія робяць немалыя грошы. Іх можна пры жаданні зразумець, каб не адзін страшны бок гэтай "работы".

Дарослыя, якія рушаць да цягнікоў, нярэдка прыхопліваюць з сабою не толькі тавар, але і дзяцей. Атрымліваецца своеасаблівы сямейны падрад. Дзеці імкнуцца не адставаць ад дарослых і, як толькі могуць, прапануюць тавар, сярод якога тыя ж самыя гарэлка, піва.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

# "Каб любіць Беларусь нашу мілую..."

*МАЛАДЗЕЧНА. Трое вучняў СШ №6 амаль два месяцы правялі ў Ірландыі. Жылі там у сем'ях, наведвалі мясцовую школу.*

Год таму ў Ірландыі пабывалі яшчэ двое вучняў школы, таму можна меркаваць, што кантакты становяцца добрай традыцыяй. Уласны карэспандэнт "РГ" сустрэўся з адным з удзельнікаў апошняй паездкі Дзімам Апаленісам - салістам групы "Аўтаномія", проста вясёлым субяседнікам. Гутарку з ім мы плануем змясціць на старонках газеты.

*Яна КАВАЛЕВІЧ.*



# Памаліцца няма дзе

*ВАЛОЖЫН. Вернікі-каталікі з Забрэззя і навакольных вёсак занепакоеныя: дзе знайсці прытулак для адпраўлення святых малітваў?*

# Смачны ўкраінскі вінаград

*МЯДЗЕЛ. Вінаград прыжыўся ў вёсцы Слабада. Дзесяць год як пладаносіць. Ягады ядуць у сырым выглядзе, гатуюць сокі, настойкі таксама. Расце госць з Украіны пад сцяной дома Яновічаў.*

Год дванаццаць таму жыхар Слабады Франц Яновіч разам з жонкай Лідзіяй гасцяваў у сваякоў у Днепрапятроўскай вобласці. Там частавалі вінаградам, прапанавалі ўзяць з сабой парастак, сказаўшы пры гэтым, што гатунак вінаграду марозаўстойлівы.

Вінаградная лаза праз тры гады пачала пладаносіць, з кожным годам давала больш і больш сакавітых смачных ягад. Апошнія гады гаспадыня здымае да 10 вёдраў. Вінаградную лазу на зіму не ўкрываюць, яна пераносіць да 30 градусаў марозу.

Лаза дае парасткі, іх высаджваюць у агародзе. Сусед Аляксандр Жыхар таксама займеў ад Яновічаў новую культурную расліну.

Летась Лідзію Яновіч напаткала вялікае непапраўнае гора: раптоўна памёр муж, не дажыўшы некалькі месяцаў да пенсійнага ўзросту.

- Дарагі мне чалавек, - кажа жанчына, - пакінуў на памяць вінаград. Ён так клапаціўся пра яго, гадаваў. Цяпер я прадоўжу яго справу. Будуць унукі спжываць дар прыроды і ўспамінаць дзядулю, руплівыя яго рукі.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*

Раней выкарыстоўвалі будынак былога комплексна-прыёмнага пункта, што доўгі час пуставаў. 19 мая там узнік пажар. Цяпер зноў прыйдзецца шукаць дах над галавой.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

**Версіі**

# Напэўна, не там шукалі

*Пасля прачытання артыкула І. Кіцікава ("Востраў на Вілейскім вадасховішчы хвалюе французаў", рубрыка "Версіі", "РГ" N100 ад 21-27 сакавіка) хацелася б удакладніць, што згаданае месца быццам бы знаходжання французскага скарбу размешчана не на дарозе Даўгінава-Вілейка (гэтая дарога знаходзіцца далёка ўбаку), а на дарозе Плешчаніцы-Вілейка, па якой і адступалі рэшткі разбітай французскай арміі.*

Пераначаваўшы 19 лістапада (стары стыль) у Стайках, Напалеон з войскам праз Старынкі павярнуў на Ілью, Вязынь, Селішча, Самалі і далей на Маладзечна. Ар'ергард Напалеона, якім кіраваў маршал Віктор, ледзь спраўляўся адбівацца ад бясконцых атак атрадаў Ярмолава, Чапіцы і казакаў Платава. Непрыяцель толькі палоннымі страціў тут 1900 чалавек, не лічачы загінуўшых.

Апошні значны бой адбыўся пад Маладзечнам. Яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя на гэтым шляху было шмат курганоў, якія ў народзе называлі французскімі магілкамі.

Ад Полацка праз Докшыцы на Вілейку і далей на Смаргонь адступала іншая калона французскай арміі, якой не далі магчымасці злучыцца з войскамі Напалеона. 20 лістапада атрад рускіх пад камандаваннем падпалкоўніка Тэтэнборна нагнаў каля Даўгінава ар'ергард корпуса Врэдзе, які складаўся з немцаў-баварцаў, і разбіў яго, узяўшы толькі ў палон каля 700 чалавек.

Безумоўна, французы везлі з сабой немалы скарб, нарабаваны ў Маскве і іншых гарадах Расіі. Акрамя таго, у Напалеона была свая казна ў 11 мільёнаў франкаў залатымі і сярэбранымі манетамі агульнай вагой каля 5 тон.

У час адступлення і навязаных рускімі баёў захопнікі частку скарбу гублялі або наўмысна кідалі, ратуючы сваё жыццё. Асабліва многа было згублена пры пераправе праз Бярэзіну каля вёскі Студзёнкі. Многае з захопленага пазней было паднята са дна ракі. Аднак большасць скарбу так нідзе і не была адшукана.

Усё гэта нарадзіла нямала легенд, у якіх спляліся адгалоскі гістарычных падзей і пазнейшых домыслаў. Паводле іх французскае золата і каштоўнасці знаходзілі каля вёсак Рэчкі і Рускае Сяло, карэта з напалеонаўскім скарбам нібыта затанула ў балоце каля Вязыні. Тут і цяпер адну з грэбляў называюць імем вялікага імператара.

Пра скарб на востраве Вілейскага вадасховішча загаварылі толькі ў апошні час. Ці мог ён тут быць закапаны? Як відаць, французы адступалі праз Вілейшчыну дзвюма паралельнымі калонамі ўбаку ад вёскі Сосенка. Акрамя таго, тады тут стаялі вельмі моцныя маразы і слупок градусніка вышэй за -20 градусаў па Цэльсіі не падымаўся.

Наўрад ці змаглі б знясіленыя, абмарожаныя і галодныя салдаты капаць у мерзлай зямлі яму, каб схаваць нікому не патрэбны ў той час скарб. Жыццё было даражэйшае. Сярод старажылаў яшчэ і цяпер ходзіць паданне, што неаднойчы і да Вялікай Айчыннай вайны, і ў часы яе ў Вілейку прыязджалі важныя людзі і пыталіся ў мясцовых жыхароў пра вялікі роўны луг, дзе растуць сем дубоў. Яны быццам бы размяшчаюцца такім чынам, што ўтвараюць своеасаблівую фігуру, накіраваную вяршыняй на захад. Стрэлка і паказвае напрамак знаходжання вышэйзгаданага скарбу. Вось тут і патрэбна яго шукаць. Так што, дапытлівыя, асмельвайцеся - і ў пошук.

Дарэчы, сёлета спаўняецца 185 гадоў адной з крывавых і знішчальных вех у гісторыі нашага народа.

**Анатоль РОГАЧ.**

*Ад рэдакцыі. Нашаму аўтару вілейчаніну Анатолю Валянцінавічу Рогачу днямі споўнілася 50 гадоў. Мы віншуем юбіляра і зычым яму новага плёну! Хай здзейсняцца ўсе планы і спадзяванні.*



Працяг рубрыкі-- у наступным нумары, які выйдзе з укладышам для маладых.

